# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№3(7)
САКАВІК
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


## САМЫЯ ВЯДОМЫЯ АСОБЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ ЎСІХ ЧАСОЎ

**Чалавек Гродзеншчыны XX-га стагоддзя і мінулага тысячагоддзя**

Выніці конкурсу падведзены на паседжанні Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі. У рэйтынгавым галасаванні прынялі ўдзел сябры Рады ГКА А.Госцеў, Ф.Ігнатовіч, С.Кандрашова, Л.Карнілава, Л.Мальцава, А.Майсяёнак, С.Марозава, Дз. Аляшкевіч, С.Піваварчык, М.Сачак, А.Талерчык, У.Трусаў, Н.Трухановіч, В.Царук, А.Цыхун, В.Швед, А.Пяткевіч, а таксама кіраўнік лабараторыі рэгіянальных праблем культуры ГрДУ імя Янкі Купалы, дацэнт С.Куль-Сільвестрава (абрана намеснікам старшыні ГКА), загадчык аддзела краязнаўства бібліятэкі імя Я.Карскага Л.Турмасава, прадстаўнік яўрэйскага абшчыннага аб'яднання, прафесар І.Розэнфельд, супрацоўнік упраўлення фізічнай культуры і турызму аблвыканкама М.Катурка.

Па выніках галасавання спіс 10 знаных постацяў Гродзеншчыны XX-га стагоддзя наступны: **В.Быкаў, Я.Карскі, М.Багдановіч, Л.Геніюш, Б.Кіт, Б.Тарашкевіч, Ю.Астроўскі, А.Мальдзіс, А.Пашкевіч (Цётка), М.Ткачоў.**

Спіс пяці найвялікшых навукоўцаў Гродзеншчыны выглядае так: **Я.Карскі, Б.Кіт, Ю.Астроўскі, А.Жэбрак, А.Мігдал.**

У конкурсе "Чалавек мінулага тысячагоддзя" вылучаны наступныя постаці: **(да 1500 г.) – Вітаўт Вялікі, Міндоўг, Давыд Гарадзенскі.**

**(Пасля 1500 г.) – Я.Карскі, А.Міцкевіч, К.Каліноўскі, С.Баторый, А.Тызенгауз, Э.Ажэшка, Ф.Багушэві!ч, Л.Геніюш, І.Дамейка, М.К.Агінскі.**

Працягваецца аналагічны конкурс Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута. Вынікі будуць апублікаваны ў наступным нумары "КГ".

## ЗБІРАЛАСЯ РАБОЧАЯ ГРУПА

Працягам работы "круглага стала" на тэму "Краязнаўчы рух на Беларусі – гісторыя развіцця, праблемы і перспектывы", які адбыўся ў Мінску 17-18 лютага бягучага года (гл. "КГ" № 2), стала першае паседжанне рабочай групы.

Абмеркавана распрацоўка агульнанацыянальнага краязнаўчага праекту, пашырэнне рэгіянальнай краязнаўчай работы, адукацыйна-метадычная і выдавецкая дзейнасць, падрыхтоўка выдання "Вялікай падарожнай кнігі Беларусі".

У складзе рабочай групы Гродзеншчыну прадстаўляюць старшыня Гродзенскага згуртавання школьнага краязнаўства А. Госцеў, старшыня Лідскай філіі ТБМ імя Ф. Скарыны, сябра Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т. Нарбута С. Суднік і дырэктар Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея Т. Вяршыцкая.

Даведкі па тэлефоне: (017) 206-59-09. Запытаць Наталлю Казлоўскую.

**Алесь Быліцкі**

■ *ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ*

## ЛІЧУ ЗА ГОНАР ПАДКАЗАЦЬ...

Шчыра ўдзячны за прысланыя нумары Вашага выдання. Асабліва за краязнаўчы календар, змешчаны ў №3-4 за мінулы год. Цяпер ведацьму, каго са знаёмых гарадзенцаў віншаваць з юбілеямі.

Але маю некалькі заўваг да гэтага календара. Язэп Варонка – не першы старшыня Беларускай Народнай Рэспублікі, а старшыня першага ўраду БНР. Першым старшынёй Рады БНР быў Янка Серада.

Шкадую, што Вы прапусцілі 110-я ўгодкі з дня нараджэння аўтара першай кнігі па геаграфіі Беларусі Аркадзя Смоліча (нар. 29(17) 9. 1891 г.). Гэтая асоба мае пэўнае дачыненне да Горадні і Гарадзеншчыны не толькі як географ ці сябра ўраду БНР (гэты ўрад знаходзіўся ў Вашым пекным горадзе), але і як старшыня Беларускага сялянскага з'езду ў Горадні (15-16.12.1918), як адзін з ініцыятараў стварэння Гарадзенскай павятовай Рады.

У працы гэтага з'езду бралі ўдзел вядомыя дзеячы беларускага руху: Андрэй Якубецкі, Фёдар (Тодар) Данілюк, Лукаш Дзекуць-Малей, Сымон Якавюк. Якубецкі і Данілюк узначальвалі адпаведна Гарадзенскую і Ваўкавыскую Рады, удзельнічалі, калі я не памыляюся, у Слуцкім Збройным чыне і г.д.

Матэрыялы пра гэты з'езд і абедзве Рады я надрукаваў у альманаху "Адраджэнне" (Мн., 1995). У ЭГБ ёсць артыкулы "Гродзенская павятовая Рада" і "Гродзенскі беларускі сялянскі з'езд", а ў Беларускай Энцыклапедыі – "Ваўкавыская павятовая Рада".

Сёлета таксама 110-я ўгодкі з дня нараджэння ўдзельніка Усебеларускага з'езду, сябра Рады БНР, камісара Сакольскага павета, аўтара нацыянальнага гімну Макара Краўцова (Касцевіча), які нарадзіўся ў Гарадзенскім павеце 6 (18).8.1891 года.

Зычу Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі поспехаў.

**Анатоль Сідарэвіч, г. Мінск**

**■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ**

# ПАКУЛЬ ВЯДЗЕЦЦА РЭСТАЎРАЦЫЯ...



**Дырэктар гродзенскага Беларускага музея гісторыі рэлігіі Людміла Аляксандраўна Карнілава працуе ў гэтай установе 24 гады. Пачынала старшым навуковым супрацоўнікам, была загадчыцай аддзела каталіцызму, намеснікам дырэктара па навуковай рабоце. З 1993 года – дырэктар музея. Удзельнічала ў стварэнні першых экспазіцый. Стажыравалася ў Расіі, Польшчы, на Украіне, Літве. Спецыялізуецца на вывучэнні гісторыі каталіцкіх ордэнаў. Аўтар шэрагу навуковых публікацый.**

**Л.А.Карнілава адказала на пытанні карэспандэнта “КГ”.**

— Наш музей бярэ свой пачатак з Полацка. У 1977 годзе пачынаецца яго гродзенскі перыяд. Я ў той час якраз заканчвала гістарычны факультэт нашага педінстытута. Пачула, што дырэктар музея, пісьменнік і краязнаўца Аляксей Карпюк шукае супрацоўнікаў. Завітала да яго. Так апынулася ў штаце. Хаця які там штат! Дырэктар, Ніна Іванаўна Ляшчонак ды я. Ніна Іванаўна была сярод нас самым вопытным спецыялістам. Яна пагадзілася пераехаць з Полацка ў Гродна, аказаць дапамогу ў стварэнні па-сутнасці новага музея. Суправаджала экспанаты – каля 2-х тысяч адзінак рэчаў. Мы размясцілі напачатку набытак на захаванне ў Каложскай царкве. Тады яна яшчэ не была перададзена вернікам. Вось так і пачыналі...

**— Афіцыйнае адкрыццё музея адбылося ў 1985 годзе. Чым парадавалі першых наведвальнікаў?**

— Прыстойнымі экспазіцыямі. Пакуль вялася рэстаўрацыя музейнага памяшкання, мы працавалі ў поўную моц. Вывучалі гісторыю царквы, помнікі рэлігіі ў Беларусі, рэгулярна адпраўляліся ў экспедыцыі па Гродзеншчыне. Фонды папаўнялі паступленні з Вільні, Мінска, Санкт-Пецярбурга, Рыгі. Мы ездзілі туды і дамагаліся, каб набыць патрэбнае. Праз абменна-рэзервовыя кніжныя фонды займелі старажытныя рэлігійныя выданні. У 1988 годзе ўжо мелі 26,5 тысячы экспанатаў агульных фондаў. Сёння — 71.708.

З 1985 па 1998 гады было арганізавана шмат выставак. Найбольш запамінальнымі застаюцца “Кніга-кірыліца на Беларусі”, “Кніга- лацінка на Беларусі”, “Помнікі меднага ліцця”, “Звонкае рэха стагоддзяў” (гісторыя званоў), “Повязь часоў. Беларускі ручнік”, “Барока на Беларусі”, “Нам засталася спадчына” (беларускі нацыянальны строй), “Гарадская культура пачатку XX-га стагоддзя”...

**— Аднак гэта, на жаль, ужо ў мінулым. Музей зноў перасялілі. Вядзецца рэстаўрацыя памяшкання і час адкрыцця экспазіцый на новых выставачных плошчах пакуль што ніхто не можа назваць. Атрымліваецца, зноў як у 1977 годзе вымушаны прастой не па сваёй ахвоце?**

— У нейкім сэнсе гэта так. Што да прастоя, то мяркуйце самі. Летась адзначаўся юбілей хрысціянства – дзве тысячы гадоў. Да традыцыйнай выстаўкі “Вялікадзень – Свята Святаў” мы арганізавалі на чужых плошчах перасоўныя экспазіцыі “Біблія – Кніга Кнігаў” і “Вобраз Маці Боскай у іконапісу”.

Дарэчы, гэта выдатная форма работы – перасоўныя выстаўкі. Мы самі завітваем у дзіцячыя садкі і школы. Для вучняў рознага ўзросту падбіраем адпаведную тэматыку, аздабляем гутаркі дэманстрацыяй нашых экспанатаў. Напрыклад, агучаны тэмы “Мая Радзіма – Беларусь”, “Царква і культура на Беларусі”. У практыцы работы музеяў Беларусі такіх прыкладаў мала.

Другі кірунак асветніцкай работы – цеснае супрацоўніцтва з мясцовымі гісторыка-краязнаўчымі музеямі. У Слоніме наведвальнікі хутка пабачаць выстаўку “Храмы Беларусі на старых паштоўках”. У Дзятлаве шмат людзей паглядзелі экспанаты выставак “Беларускі ручнік”, “Гарадская культура”. Там жа падрыхтуем экспазіцыю “Свет сакральнага мастацтва”. Запланаваны нашы выстаўкі ў Навагрудку і Мастах.

Пры гэтым актыўна працягваем збіраць экспанаты. Кожны супрацоўнік мае свой кірунак працы. Нядаўна набылі кнігу пачатку 1800-х гадоў гродзенскага друку. Папаўняем фонды культавых рэчаў, у прыватнасці, скульптурнымі выявамі Хрыста, Анёлаў, павялічваем запас абразоў. З Мінскай вобласці атрымалі рэдкую Калядную зорку з саломкі. Маем прапанову купіць старажытную велікодную талерку...

**— Адчуваецца, што музей наладзіў плённае супрацоўніцтва з гісторыкамі і краязнаўцамі Гродзеншчыны.**

— Гэта так. Прычым, не толькі вобласці. Вы звярнулі ўвагу на колькасць экспанатаў нашага агульнага фонду? Пачыналі з 2-х тысяч і выраслі амаль да 72 тысяч. Гэта пры тым, што ў Гродзенскай вобласці ёсць музеі, вядзецца збор матэрыялаў. Значыць, далёка не ўсё знойдзена і вывучана. Тут роля краязнаўцаў неацэнная. Усе музейныя работнікі па вялікаму рахунку краязнаўцы. Мы трымаем цесныя сувязі са знакамітым Алесем Белакозам, іншымі дырэктарамі мясцовых музеяў, гродзенскімі вучонымі і краязнаўцамі Алесем Краўцэвічам, Дзмітрыем Каравым, Аляксандрам Госцевым, Вячаславам Шведам. Публікацыі гэтых аўтараў змяшчаліся ў зборніках “Наш радавод”.

Марым пра той дзень, калі наведвальнікі нашага музея пабачаць новыя экспазіцыі. Мы пастараемся стварыць такія выстаўкі, каб яны надоўга захаваліся ў памяці людзей.

**Гутарыў**
**Антон Лабовіч**

КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ

# ПАПУЛЯРЫЗАВАЦЬ ВЕДЫ!

Нарэшце зразумеў агромністае значэнне папулярызатарскай дзейнасці: як гэта рабіць і якімі сродкамі!

З кожнай хвілінай у нашым грамадстве нараджаюцца дзесяткі тысяч дылетантаў (калі не сказаць больш жорста), якія патрабуюць адукацыі (асенізатараў, як казаў У. Маякоўскі)...

Прапаную аказваць усебаковую падтрымку "ціха памешаным". Ствараць ім доступ да прэсы, даваць магчымасць друкавацца, выказвацца. Неабходна праводзіць для людзей, злучаных адной справай, напрыклад, тым жа краязнаўствам, больш сустрэч, канферэнцый, дыскусій.

**Міхась Вераціла,**
**п. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна.**

**"КГ".** Спадар Міхась, відавочна, мае на ўвазе пад словазлучэннем "ціха памешаныя" усіх тых, хто апантаны (прафесійна ці аматарскі) блізкай сэрцу справай – нумізматыкай, археалогіяй, зборам марак, краязнаўствам, даследаваннем старых паселішч ці ўласнай радаслоўнай...

Больш бы грамадству такіх "памешаных"!

# ЭХ, ЗДАБЫЦЬ БЫ СРОДКІ!

Для поўнакроўнай працы ў краязнаўстве мне патрэбны фінансы, каб набыць тэхнічныя сродкі для вядзення краязнаўчага пошуку. Трэба мець грошы для паездак і працы ў Варшаўскім архіве, так як у архівах нашай дзяржавы знішчана ўсё адносна здзекаў з боку расійскіх войск, расійскага прыгнёту наогул. Чамусьці аб польскім прыгнёце ўсё захавалася.

А мне неабходна набыць звесткі аб расправе над паўстаннем у Слоніме ў 1794 годзе, у перыяд з 1939 па 1990 гады, аб удзеле Слонімскай харугвы ў 1410 годзе і г.д.

Калі Васіль Супрун напісаў кнігу "Дзеі над Шчарай", дык мая задача – раскрыць людзей, паказаць іх у нашай гісторыі.

Тое-сёе ўдалося зрабіць. У 1986 годзе сабраў матэрыял і адкрыў у СШ № 10 г. Слоніма музей "Моладзь Слонімшчыны ў барацьбе за Беларусь". Збіраю і друкую ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах матэрыялы аб знакамітых людзях Слонімшчыны. Былі змешчаны артыкулы пра Анатоля Іверса, Валянціна Таўлая, Алеся Сучка і іншых. Цвёрда стаю на пазіцыі абароны роднай беларускай мовы.

**Іван Карповіч**
**г. Слонім.**

# ПАМЯТАЕМ СВАІХ ЗЕМЛЯКОЎ

Яшчэ ў 1995 годзе мы стварылі гурток "Беларусазнаўства". Арганізоўваем цыклы адукацыйных і культурных мерапрыемстваў: сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі Данутай Бічэль, Вольгай Іпатавай, Уладзімірам Арловым, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным.



Традыцыйнымі сталі летнія вандроўкі на возера Свіцязь і Нарач. Многія ўдзельнікі гуртка пабылі ў творчых экспедыцыях і паездках у Вільню, Тракай, Львоў, Полацк, Мір, Нясвіж, Брэст, Бярозаўку, Слонім. Знаходзілі сродкі для ўзнагароджання пераможцаў алімпіяд па гісторыі Беларусі.

Засталіся ў памяці канцэрты беларускіх бардаў Віктара Шалкевіча і Андрэя Мельнікава.

**Лявон Анацка,**
**старшыня Лідскай рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# ЗРОБЛЕНАЕ НАТХНЯЕ НА НОВЫЯ СПРАВЫ

Іншы раз, запаўняючы розныя анкеты, узгадваеш зробленае за апошнія гады. Паўсядзённае жыццё са сваімі клопатамі і праблемамі адсоўвае ўбок мінулае, робіць яго абыдзенным і звычайным. А вось задумаешся, успомніш праведзеныя мерапрыемствы, як і з кім яны рыхтаваліся, якія вынікі далі, то нават здзіўленне бярэ...

Не магу забыць, напрыклад, як актыўна збіралі подпісы сярод настаўнікаў і вучняў старшых класаў пад адкрытым лістом Аляксандру Лукашэнку аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове. Гэта было ў 1994 годзе.

У траўні 1999 года нам удалося ўзнагародзіць падарункамі 77 выдатнікаў беларускіх пачатковых класаў з 11-ці СШ горада Гродна. Працавалі сумесна з сябрам ТБМ В.Парфёненкам. Дапамогу аказалі старшыня абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша" Аляксандр Мілінкевіч, сябры Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Нас вельмі занепакоіла разбурэнне ў вёсцы Лаша музея Яўхіма Карскага. Усяляк дапамагалі захаваць экспанаты, перадаць іх у школу-гімназію № 30. З 1992 года арганізуем пастаянную выстаўку новых беларускіх кніг, значкоў, касет і г.д., прымеркаваную да Дзён акадэміка Я.Карскага.

Рэгулярна арганізуем краязнаўчыя экскурсіі сумесна з моладзевым цэнтрам імя К.Каліноўскага для вучняў школ з беларускай мовай навучання. Ёсць вусная дамоўленасць з кіраўніцтвам шэрагу школ Гродна аб правядзенні там беларускімі грамадскімі няўрадавымі арганізацыямі віктарын і конкурсаў, прысвечаных гісторыі і культуры Беларусі.

Падтрымліваем цесныя сувязі з суполкамі нацыянальных меншасцяў, рыхтуем сумесныя краязнаўчыя праекты.

**Аляксандр Крой**
**г. Гродна.**

**«КГ».** У наступных нумарах газеты мы працягнем друкаваць думкі краязнаўцаў Гродзеншчыны.

# АЛЯКСЕЮ ПЯТКЕВІЧУ - 70



Нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. У 1949 годзе паступіў на філфак (аддзяленне беларускай мовы і літаратуры) БДУ. Скончыў навучанне ў 1954 годзе.

Вучыўся ў аспірантуры на кафедры беларускай літаратуры БДУ (1954-1957 г.). Кандыдацкую дысертацыю "Псіхалагічны аналіз і праблемы характару ў прозе К.Чорнага" абараніў у 1963 г.

З 1957 года працуе на кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага педагагічнага інстытута

З 1990 года – дацэнт кафедры беларускай культуры. З 1991 г. – загадчык гэтай кафедры. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1971 года.

Асноўная тэматыка навуковых публікацый – гісторыя беларускай літаратуры, творчасць сучасных пісьменнікаў, ідэі асветніцтва ў беларускай літаратуры, рэгіянальныя аспекты культуры Гродзеншчыны.

З'яўляецца сябрам рэдакцыйнай Рады "Роднага слова" і газеты "Наша слова". Сябра камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябра камітэта Міжнароднага Купалаўскага фонду.

Прафесар кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.

## ПАДВІЖНІК КУЛЬТУРЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Пісаць пра чалавека, які амаль паўстагоддзя замілаваны ў айчынную культуру, актыўна ўдзельнічае ў яе развіцці і ўзбагачэнні, церпіць за яе нават зняваґі – справа складаная. А калі гэты чалавек — твой калега і сябар, і ты бачыш амаль штодня яго працу і ўчынкі ва ўмовах не лепшых для айчыннай культуры, яе творцаў і прыхільнікаў, то гэтая складанасць узрастае шматразова. Творцу ў такіх умовах вельмі не проста быць адданым асноўным каштоўнасцям, якія абраў яшчэ ў маладосці.

Асабіста я доўга шукаў адказы на пытанне: "Што дапамагае прафесару Аляксею Пяткевічу паслядоўна і настойліва ўзбагачаць айчынную культуру, прапагандаваць яе на Гродзеншчыне, у краіне і свеце?".

Як гэта заўсёды бывае, адказы аказаліся зусім простымі.

Прафесар Пяткевіч – беларус. Ён ніколі не дэманструе свой нацыянальны твар, нацыянальную існасць, нацыянальную тоеснасць. У гэтым няма неабходнасці. Разам з тым перад ім ніколі не ўзнікалі пытанні накшталт "Ці варта быць беларусам?", "Ці заўсёды трэба быць беларусам?".

Прафесар Аляксей Пяткевіч – удумлівы тэарэтык культуры. Ён разумее, што рэальна існуе толькі нацыянальная культура, што толькі на падмурку нацыянальнай культуры магчыма культурнае грамадства і культурная асоба. Менавіта гэта вызначыла прадмет навуковых інтарэсаў Аляксея Пяткевіча — гісторыя культуры нашага краю.

Яго кнігі "Літаратурная Гродзеншчына (1996), "Людзі культуры з Гродзеншчыны" (2000) уражваюць сваёй глыбокай сутнасцю, сваёй формай, філалагічнай насычанасцю і шляхетнасцю. У гэтых кніг прапорцыі храма. Ды і па свайму значэнню для гісторыі культуры Гродзеншчыны яны адпавядаюць храму.

Прафесар Аляксей Пяткевіч – падвіжнік культуры Гродзеншчыны. У апошняй трэці XX-га стагоддзя не было выпадкаў, каб ён маральна і інтэлектуальна не падтрымаў творцаў-землякоў, нават тады, калі гэтая падтрымка была звязана з пэўнай рызыкай для яго.

Вучоны, які дзесяцігоддзямі працуе на карысць справы, у якую цвёрда верыць, піша свае творы праўдзіва і прыгожа, мае права спадзявацца на ўзнагароды. Прафесар Аляксей Пяткевіч на ўзнагароды не спадзяецца, бо ведае, што яны прыйдуць не хутка, а калі нават і прыйдуць, то ён можа адсутнічаць у тым месцы, дзе ўзнагароды будуць раздаваць.

Ён будзе заняты той вялікай справай, якой служыць з малых гадоў.

**Сяргей Габрусевіч,**
**старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, прафесар.**

## ПРЫНЯМОННЕ ПОЎНІЦЦА ТАЛЕНТАМІ

Апошняй па часе выдання кнігай Аляксея Пяткевіча, якая пабачыла свет, была "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Гэта даведнік, у якім змешчаны артыкулы-персаналіі пра асобаў, народжаных у нашым краі. Дарэчы, першы на Беларусі зборнік такога кшталту.

Такія выданні становяцца настольнымі. Вельмі часта неабходна мець пад рукой звесткі пра таго ці іншага чалавека. Даводзіцца пытаць у бібліятэках, шукаць у знаёмых і сяброў, гартаць перыёдыку. А тут сабрана ўсё разам. Зручна і практычна.

У кнізе даюцца біяграфічныя дадзеныя пра людзей далёкай мінуўшчыны і нашых сучаснікаў – тых, хто зрабіў свой уклад у культуру не толькі нашай краіны. Напрыклад, вядомы сучасны польскі спявак, музыкант і кампазітар Чэслаў Неман (Выдрыцкі) нарадзіўся на Гродзеншчыне. Сям'я ў 1957 годзе выехала ў Польшчу. Там Чэслаў дасягнуў пэўных вышынь у творчасці. Але яго карані ў Прынямонні. Літаратар Аляксей Анішчык, які зараз жыве ў Вільні, родам з Навагрудчыны. Такіх прыкладаў шмат.




Праца над кнігай запатрабавала ад аўтара вялікіх высілкаў. Сабраны і апрацаваны значны біяграфічны матэрыял пра добрую тысячу асобаў, іх дасягненні на ніве культуры. Гэта нашы землякі. Імі трэба ганарыцца, навучаць на іх жыццёвым прыкладзе моладзь, каб мацавалася непарыўнасць талентаў, народжаных зямлёй Гродзеншчыны.

**Уладзімір Кавалёў**

# ВАСІЛЮ СУПРУНУ - 75



Нарадзіўся 10 сакавіка 1926 года ў вёсцы Глоўсевічы Слонімскага раёна. У 1944 годзе закончыў настаўніцкую семінарыю, затым Ганцавіцкае педвучылішча, Мінскі педагагічны інстытут. У 1944-47 гадах працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. У 1947—1956 г.г. з'яўляўся вязнем сталінскіх

## СЛОВА ПРА СЯБЕ

турмаў: Баранавічы, Мінск, Гродна, Ворша, Інта, Варкута. Пасля зняволення працаваў будаўніком, навуковым супрацоўнікам Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, зноў будаўніком Маскоўскага трэста "Саюззлеватарбуд". З 1986 года на пенсіі.

Аматарскім краязнаўствам, дакладней археалогіяй, заняўся ў 1963 годзе. На Брэстчыне і Гродзеншчыне выявіў і абследаваў больш як 200 археалагічных помнікаў розных эпох. Справаздачы накіроўваў у архіў Інстытута гісторыі АН БССР. Матэрыялы даследаванняў знаходзяцца таксама ў Брэсцкім абласным і Слонімскім краязнаўчых музеях. Удзельнічаў у канферэнцыях пры АН Беларусі (1966, 1969), выступаў з паведамленнямі па археалогіі.

Асноўную ўвагу надаваў выяўленню і апісанню раней не даследаваных археалагічных, архітэктурных і гістарычных помнікаў краю. Надрукаваў дзесяткі артыкулаў у газетах і часопісах. Асноўныя публікацыі – "Гродзеншчына на археалагічнай карце", "Помнікі каменнага веку і эпохі бронзы ў рэчышчы сярэдняй плыні ракі Шчара", "Паселішча Русакова-2", "Палац у Ружанах", "Старажытнае Крэва", "Штыхаваная кераміка", "Храм у Сынкавічах". Таксама выдаў кнігі "За смугою часу", "Дзеі над Шчарай" і іншыя.

## КРАЯЗНАВЕЦ І ПАЭТ

З Васілём Супруном я знаёмы даўно. Мы жывём у Слоніме на адной Брэсцкай вуліцы. Цяпер радзей (з-за хваробы), а раней часцей сустракаў яго на вуліцах нашага горада, гісторыю якога Васіль Супрун ведае "на зубок". Даследаваў і вывучаў Слонім ён лепш за ўсіх астатніх беларускіх даследчыкаў і краязнаўцаў, апублікаваў дзесяткі артыкулаў у розных выданнях.

А напрыканцы мінулага года выйшла яго грунтоўная праца па гісторыі зямлі Слонімскай – кніга "Дзеі над Шчарай". Магу адзначыць, што за апошнія паўстагоддзя – гэта самае поўнае і дасканалае даследаванне гісторыі Слоніма. Былі кнігі іншых беларускіх гісторыкаў і краязнаўцаў, напісаныя цікава, але аднабакова. В. Супрун жа паказаў гістарычны шлях Слонімшчыны праўдзіва.

Да гэтага, на працягу васьмі апошніх гадоў, свет пабачылі чатыры кнігі вершаў слонімца, а таксама кніга даследаванняў і меркаванняў "За смугою часу".

Васіль Супрун з'яўляецца сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Ён па-ранейшаму піша і друкуецца. Марыць у бліжэйшы час выдаць том сваёй выбранай паэзіі, якая, сапраўды, заслугоўвае ўвагі.

Большая частка вершаў нашага земляка прысвечана Беларусі, яе долі і волі, яе мужным людзям, а таксама каханню:

Не сумуй, дзяўчына,
Не губі надзей, —
Калі так кахаеш,
Значыць, ён прыйдзе.

Васіль Супрун быў знаёмы з славутай паэткай Ларысай Геніюш. Яны разам адбывалі зняволенне ў бальшавіцка-сталінскіх лагерах. Васіль – у Інце, Ларыса – у Абезі. Васіль Рыгоравіч захаваў да сённяшніх дзён сваю перапіску ў вершах з паэткай і апублікаваў яе ў зборніку "Незабыўныя "ксівы" (Гародня, 1998 г.):

Нагадала ты мне
Нашу жніўную песню,
Абарваную раптам
Трывогай падзей;
Зледзянелую птушку,
Што несла прадвесне
У зняволены край,
Для галодных людзей.

10 сакавіка ў Васіля Супруна юбілей – яму спаўняецца 75. Здароўя Вам, Васіль Рыгоравіч, новых кніг!

**Сяргей Чыгрын**
**г. Слонім.**

## ВАЧЫМА ДАСЛЕДЧЫКА



У мінулы годзе з друку выйшла адна з галоўных кніг пісьменніка – "Дзеі над Шчарай" з падзагалоўкам "З гісторыі зямлі Слонімскай". Пачынаецца аповяд з геаграфіі Слонімшчыны. Аўтар паведамляе пра сведкі сівой даўніны, першыя археалагічныя раскопкі ў Слоніме, знаходках, якія ўдалося вярнуць з глыбіні стагоддзяў.

Аўтар узгадвае 53 мясціны на тэрыторыі сучаснага Слонімскага раёна, дзе выяўлены археалагічныя помнікі, указвае асаблівасці знаходак.

Цікавы раздзел "Між двух сусветных войнаў", асабліва заходнебеларускі перыяд, напоўнены змаганнем і гераічнымі ўчынкамі сяброў беларускіх грамадскіх арганізацый. Дзесяткі фактаў сведчаць пра зацятую барацьбу змагароў-беларусаў за лепшую долю. Аднак верасень 1939 года з прыходам Чырвонай Арміі не прынёс чаканага вызвалення.

Аўтар змясціў у кнізе дзесяткі здымкаў. Яны арганічна дапаўняюць тэкст. Гэта шматлікія выявы горада Слоніма розных часоў, асобныя гістарычныя пабудовы, помнікі, знакамітыя людзі краю.

**Антон Лабовіч**




# ШТО БЫЛО, ТАГО НЕ ЗАБЫЦЬ

12 сакавіка споўнілася дзесяць гадоў помнаму знаку вязням Гродзенскага гета па вуліцы Замкавай. Гэта дзень памяці ахвяраў гета.

Сёння ў Гродне згодна апошняму перапісу насельніцтва жыве 609 яўрэяў. Для параўнання. На 29 ліпеня 1941 года ў горадзе было зарэгістравана 18.560 яўрэяў, 48 літоўцаў, 21.500 палякаў. 5.200 беларусаў, 2.060 рускіх.

У пачатку ліпеня 1941 года фашысты вывезлі з Гродна і расстралялі 80 прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі.

1-га лістапада захопнікі аб'яўляюць аб стварэнні ў горадзе двух гета. Усе яўрэі абавязаны з 12 да 18 гадзін перасяліцца ў гета. У гета № 1 (начальнік Курт Візэ) трапіла каля 15 тысяч, гета № 2 (начальнік Ота Стрэблеў) – каля 10 тысяч грамадзянаў.

У студзені 1942 года ў гета № 1 створана падпольная антыфашысцкая арганізацыя.

У лістападзе 1942 года пачалося запланаванае знішчэнне гродзенскіх гета. Тысячы яўрэяў праз прамежкавы лагер у Калбасіна вывезены ў лагеры смерці Асвенцым і Трэблінку. На смерць адпраўлена 20.577 чалавек.

Усяго з Гродна і бліжэйшых населеных пунктаў знішчана 41.700 яўрэяў.

У Беларусі нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі 865 тысяч яўрэяў, у тым ліку 55 тысяч з сямі захопленых гітлераўцамі еўрапейскіх дзяржаў (15 працэнтаў ад шасці мільёнаў яўрэяў, ліквідаваных нацыстамі за шэсць гадоў Другой Сусветнай вайны).

21 кастрычніка – неафіцыйны Дзень памяці яўрэяў, якія загінулі на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

# НА ШЛЯХУ Ў АСВЕНЦЫМ І ТРЭБЛІНКУ

Увосень 1941 года ўсе яўрэі Гродна былі сагнаны ў гета. Іх колькасць налічвала 29 тысяч. Праз год фашысты прыступілі да знішчэння вязняў.

Прыведзеная лічба зняволеных прыблізная. Напачатку Другой Сусветнай вайны шматлікія яўрэйскія ўцекачы накіраваліся на ўсход тагачаснай Польшчы, і пасля падзей 17-га верасня 1939 года апынуліся на савецкай тэрыторыі. З першых дзён фашысцкай навалы ў Гродна прасочваліся яўрэі з ваколіц, ратуючыся ад пераследаванняў гітлераўцаў.

Многія з іх таксама папоўнілі шэрагі двух гета. Першае было ў самым цэнтры Гродна, займала плошчу гістарычнага пасялення яўрэяў. Другое было створана на цяперашнім праспекце Касманаўтаў, абмяжоўвалася вуліцамі Антонава, Белуша, Лідскай. З яго пачаўся вываз яўрэяў на знішчэнне ў лагеры смерці. Да першых маразоў 1942 года гэтая тэрыторыя была "вызвалена ад непажаданых элементаў".

Гітлераўцы дзейнічалі скрытна. Вывешвалі абвесткі і склікалі яўрэяў на грамадскія работы. Весткі пра лёс гэтых небаракаў даходзілі да Гродна. Страшную праўду прывозілі падарожныя з Беластока. Чуткі пра газавыя камеры шырыліся сярод зняволеных.

Гета № 1 было абнесена калючым дротам. Каля вызначаных праходаў стаяла ўзмоцненая ахова. Раніцай групы на чале са старшым выходзілі на работу. Людзей старанна пералічвалі. Вечарам лічбы звяраліся зноў. Ахоўнікі пры гэтым маглі збіць чалавека на горкі яблык, забраць апошняе, учыніць здзекі. Маглі і забіць.

На 12 лютага 1943 года ў гета заставалася ўсяго пяць тысяч вязняў. Фашысты трымалі да апошняга спецыялістаў рэдкіх прафесій і кваліфікаваную рабочую сілу. Аднак і гэтых людзей чакала смерць.

Праз месяц фашысты вывесілі чарговую аб'яву: "13 сакавіка, у суботу, патрабуюцца для выканання работ 400 мужчын". Рабочыя сабраліся. Іх шчыльна абступілі салдаты. Увесь гэты час гітлераўцы праводзілі карную аперацыю "Момант": хапалі людзей і заганялі ў вагоны на чыгуначнай станцыі.

Гэта быў перадапошні эшалон прыгавораных да смерці яўрэяў з Гродна. Ацалелі адзінкі. Іншыя маладыя людзі спрабавалі выскокваць з цягніка ў час руху. Аднак ахоўнікі стралялі трапна. Эшалоны рухаліся толькі днём.

Знаходзіліся смельчакі, якім усё-такі пашчасціла зведаць слодыч свабоды. Такім быў гарадзенец Рыгор Хасід. Ён асмеліўся скокнуць з цягніка за Беластокам на шляху ў Трэблінку. Кулі не трапілі ва ўцекача. Далей было трагічнае змаганне за жыццё...

**Антон Лабовіч**



**Гэтая паштоўка 1942 года з'яўляецца жахлівым сведчаннем існавання "Брамы ў Пекла", праз якую прайшлі не менш, як 20 тысяч зняволеных яўрэяў гродзенскага гета № 1.**

**Сёння, акрамя адзінай шыльды, нішто не нагадвае аб трагічным лёсе гродзенцаў яўрэйскай абшчыны, амаль поўнасцю знішчаных фашыстамі, у т.л. на тэрыторыі гета. Сінагога - нямая сведка масакры, знаходзіцца ў атачэнні аўтастаянкі, будынку гандлю насеннем.**

**Што сеем, паважаныя гродзенцы, у нашу гісторычную памяць, тое і пажнем...**

# ГІСТОРЫЯ-ПРЫВІД ЯЎРЭЙСКАГА ГРОДНА?

Гродна заўсёды быў поліканфесійным і шматнацыянальным горадам. Інтарэсы гродзенцаў часцей за ўсё сутыкаліся на глебе празаічных матэрыяльных даброт. Канфліктам садзейнічала і прыналежнасць да розных рэлігійных груп.

Гістарычна склалася так, што большасць насельніцтва Гродна (і не толькі) складалі яўрэі. Яны пасяліліся тут не пазней 14-га стагоддзя. У мясцовую эканоміку прынеслі новую рамесную тэхніку, капіталы, буржуазны стыль жыцця, заснаваны на прынцыпах выгады, асабістай актыўнасці і назапашвання.

Дакументы сведчаць, што амаль да канца 19-га ст. яўрэі складалі ад 50 да 80 працэнтаў насельніцтва Гродна. Яны стварылі тут свой жыццёвы свет, прасякнуты традыцыямі, адданасцю рэлігійным ідэалам, любоўю да нацыянальнай гісторыі. На гродзенскіх вуліцах выраслі сінагогі і малельныя дамы. На трох могілках знайшлі апошняе супакаенне многія вядомыя талмудысты, багатыя купцы, бедныя гандляры, масцеравыя людзі. У многім яны пакінулі нам горад такім, якім мы яго любім.

Але ці ўдзячныя мы нашчадкі? Сёння яшчэ гэтага няма. Гісторыя яўрэяў Гродна не знайшла адлюстравання ў экспазіцыях музеяў, літаратурных творах. На месцы знішчаных могілак няма помных знакаў. Аб трагедыі гродзенскага гета сведчыць адзіная шыльда.

Няўжо меў рацыю О.Хакслі, сцвярджаючы, што ўрокі гісторыі заключаюцца ў тым, каб людзі нічога не бралі з гэтых урокаў?

**Вольга Сабалеўская**

# ЗОРКА КВАНТАВАЙ ФІЗІКІ З ЛІДЫ



Адзін з лідэраў савецкіх навуковых даследаванняў квантавай тэорыі поля, фізіцы атамнага ядра і элементарных часціц, выдатны педагог, гісторык, рэдактар і папулярызатар навукі Аркадзь Бейнусавіч Мігдал нарадзіўся ў Лідзе 11 сакавіка (26 лютага ст.ст.) 1911 г. у яўрэйскай сям'і, ў час Першай сусветнай вайны эвакуіраванай ў Расію.

Вышэйшую адукацыю атрымаў у Ленінградскім універсітэце. З 1942 года выкладаў тэарэтычную фізіку ў Маскоўскім інжынерна-фізічным інстытуце. Прафесар з 1944 года.

Таленавіты фізік быў запрошаны на працу ў Інстытут фізічных праблем АН СССР (1943-1945 г.), а пазней – у Інстытут атамнай энергіі імя І.В.Курчатава (1945-1971г.). З 1971 года загадваў аддзелам Інстытута тэарэтычнай фізікі імя Л.Д.Ландау АН СССР.

Да творчых дасягненняў А. Мігдала адносіцца развіццё тэорыі дыпольнага выпраменьвання атамных ядраў і іанізацыі атамаў пры ядзерных рэакцыях; дастасаванне металаў квантавай тэорыі поля да задач многасных цел і тэорыі атамнага ядра. Ён аўтар буйных прац у галіне фізікі касмічных прамянёў, тэорыі металаў і іншых галіновых кірункаў тэарэтычнай фізікі. У 1953 годзе абраны членам-карэспандэнтам АН СССР. У 1966 – сапраўдным членам (акадэмікам) АН СССР. Меў вышэйшыя ўрадавыя ўзнагароды.

Акадэмік А.Б.Мігдал аўтар вядомых манаграфій, сярод якіх "Теория конечных ферми-систем и свойства атомных ядер" (Москва, 1965), "Приближенные методы квантовой механики" (Москва, 1966), "Метод квазичастиц в теории ядра" (Москва, 1967), "Количественные методы в квантовой теории" (Москва, 1975).

У шэрагу сваіх публікацый вучоны паказаў сябе выдатным гісторыкам навукі, яе папулярызатарам. Сучаснаму пакаленню фізікаў добра вядома папулярнае выданне А.Б.Мігдала "Квантовая физика и Нильс Бор" (издательство "Знание", Москва, 1987). Гісторыя навукі паказана не як чарга ажыццёўленых азарэнняў, але як драматычны лёс навуковых ідэй. Можа пагэтаму доследы і ідэі Аркадзя Бейнусавіча заўсёды вабілі моладзь, служаць грунтам устойлівага развіцця сучаснага інтрыгуючага напрамку вывучэння квантавай тэорыі поля.

Ён не шкадаваў часу для шырокай папулярызацыі сваіх перакананняў, працуючы, напрыклад, у рэдакцыйнай калегіі "Библиотечки "Квант", заснаванай у 1980 г. і адрасаванай вучням і студэнтам. Імя акадэміка А.Б.Мігдала стаіць тут побач з прозвішчамі акадэмікаў Ю.Асіп'яна, А.Абрыкосава, Б.Ванштэйна, Р.Сагдзеева і інш. Менавіта ў бібліятэчцы ўбачыла свет ці не апошняя кніга нашага земляка "Квантовая физика для больших и маленьких" (Москва.1989). У прадмове вучоны звяртаўся да юных чытачоў: "Не огорчайтесь, если не всё будет понято при первом чтении. Новое воспринимается не сразу, к нему нужно привыкнуть". Гэта справядліва не толькі для зразумення квантавай фізікі.

Акадэмік А.Б.Мігдал выказаў надзею, што на верным шляху знаходзіцца тэорыя Вялікага аб'яднання, якая дасць адзінае тлумачэнне электрамагнітным, слабым, моцным і гравітацыйным узаемадзеянням. Гэта прывядзе да разумення шматлікіх загадкавых з'яў матэрыяльнага свету. І гэта ёсць шлях, на думку Аркадзя Мігдала, да глыбокага пазнання Сусвету.

Добрага жыццёвага шляху жадаў акадэмік А.Б.Мігдал маладым энтузіястам. І разам з тым працуйце з "добрым сэнсам і гумарам", тлумачыў вучоны, адзін з рэдактараў збору "Физики шутят".

Бачыцца ў постаці і дзеях акадэміка А.Б.Мігдала вялікая мудрасць зямлі беларускай, якая яго ўзгадавала і якую ён праславіў у сваіх навуковых дасягненнях. Ідэі вучонага апярэдзілі час і будуць ажыццёўлены ў будучым.

Акадэмік А.Б.Мігдал памёр у 1991 годзе.

**Андрэй Майсяёнак,**
**член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.**

■ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ

# СЯБРАМ, БІБЛІЯТЭКАМ, МУЗЕЯМ

Да юбілею Іўеўскага раёна, што адзначаны летась, выйшла кніга "З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю". У ліку аўтараў вядомыя краязнаўцы і навукоўцы Гродзеншчыны І.Крэнь, А.Майсяёнак, М.Васілючак, І.Басюк, І.Коўкель, Б.Іванчук, Ф.Ігнатовіч і інш. Яны адкрылі чытачам кнігі нямала цікавых старонак багатага летапісу Івейшчыны.

З партфелем, напакаваным кнігай пра Іўеўскі край, вярнуўся дамоў з юбілейных урачыстасцей лідскі журналіст-краязнаўца Алесь Жалкоўскі, адзін з аўтараў выдання. І вось як распарадзіўся незвычайным багажом. Падарыў паасобныя экземпляры сябрам па краязнаўству, Лідскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы, раённай бібліятэцы імя Валянціна Таўлая, музеям Ліды і Навагрудка…

А яшчэ пераслаў кнігу ў Польшчу фальклорнаму ансамблю "Хлопцы-рыбалоўцы" з-над Бельска Падляскага, калектыў якога ў 20-х гадах з вялікім поспехам выступаў на Івейшчыне.

**В.Калбыка**

# КОНКУРС ЗАВОЧНЫ, А ВЕДЫ САПРАЎДНЫЯ

У студзені-лютым 2001 года сярод школьнікаў праходзіла завочнае падарожжа па Іўеўскаму раёну "Дарога да храма", прысвечанае 2000-годдзю нараджэння Хрыстова.

Мерапрыемства праводзіліся ў рамках Усебеларускай экспедыцыі "Наш край". Арганізатарам гэтай справы стаў Іўеўскі цэнтр пазашкольнай работы (дырэктар В.І.Касяровіч). Удзельнікі завочнага падарожжа Маша Малчанава, Оля Алейнік, Аня Хваль, Іна Рынкевіч афармілі цікавы матэрыял па гісторыі касцёла св. Мікалая ў Геранёнах, зрабілі замалёўкі мясцовых культавых помнікаў. Сямікласнікі Аня Хваль, Матвей Сілюк, Валодзя Марушэўскі адказалі на пытанні абласной завочнай віктарыны "Хрысціянству-2000".

А вучні пятых-сёмых класаў рыхтуюцца паказаць свае веды па біялогіі ў завочнай віктарыне знаўцаў навакольнага асяроддзя. Гэта 20 пытанняў – аб раслінах, жывёлах, насякомых і птушках.

**Алена Смалянічэнка,**
**педагог-арганізатар Геранёнскай СШ Іўеўскага раёна.**

# ВЯСКОВАЯ ФІЛІЯ ЦЭНТРА «ПАВЕТ»

Сёння нікога не здзівіш існаваннем краязнаўчай суполкі нават у вёсцы. Мы ўзніклі ў мінулым годзе як філія раённага асветніцка-культурнага цэнтра "Павет". Яго асноўнай задачай з'яўляецца ахова помнікаў гісторыі і культуры раёна, вывучэнне іх стану, выхаванне насельніцтва ў любові да мінуўшчыны.

Сваю суполку мы назвалі "Веверск". На ўліку пяць сяброў. Пастаянна праводзім асветніцкую дзейнасць у сельсавеце, даводзім людзям культурна-этнаграфічную і гістарычную спадчыну нашага краю, збіраем экспанаты для будучага музея, удзельнічаем у экспедыцыях, арганізуем экскурсіі і паходы, сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Агульнымі намаганнямі краязнаўцаў рэгіёна за апошнія тры гады было зроблена 120 слайдаў і фотаздымкаў архітэктурных помнікаў рэгіёна, прасочаны стан 26 старажытных стаянак і курганаў, уратаваны ад разбурэння цэрквы ў Малым Бараве і Трабах Іўеўскага раёна, спынена знішчэнне старых могілак у г. Ліда па вуліцы Энгельса.

У час правядзення пошукавай экспедыцыі ў жніўні 1999 года ў вёсцы Ішчоліна Шчучынскага раёна быў выяўлены сонечны гадзіннік 18-га стагоддзя, дарэчы, адзіны, які захаваўся ў Беларусі.

**Казімір Кароль,**
**старшыня краязнаўчай суполкі "Веверск".**
**Вёска Рулевічы, Лідскі раён.**

# ВІТАЕМ СЛОНІМСКІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ!

СЛОНІМСКІ КРАЯЗНАЎЦА

Слонімскі гісторыка-краязнаўчы гурток пры грамадскай арганізацыі "Воля да развіцця" займеў уласны бюлетэнь — "Слонімскі краязнаўца".

У звароце да чытачоў рэдакцыйная рада тлумачыць, што аўтарскі калектыў найперш будзе пісаць пра Слонімшчыну, яе гісторыю і сучаснасць, пра згадкі і таямніцы мінулага.

Сябры суполкі часцяком бываюць у вандроўках па родным краі. Гэта паклала адбітак і на публікацыі нумару. Загалоўкі гавораць самі за сябе: "Паездка ў Орлавічы", "Раскалаты камень на Слонімшчыне", "Белая крыніца", "Гісторыя першай школы", "Альберцінскі касцёл". Бюлетэнь багата ілюстраваны.

Засталося нагадаць, што кіруе работай гісторыка-краязнаўчага гуртка нястомны Сяргей Ёрш.

**Сцяпан Ярашчук**

## ШКОЛЬНЫМ КРАЯЗНАЎЦАМ

**Згуртаванне Беларусаў свету "Бацькаўшчына" да свайго 3-га з'езда аб'яўляе конкурс на лепшыя сачыненні, вершы, апавяданні па тэмах "Беларусь – мая Бацькаўшчына", "Што я ведаю пра Беларусаў замежжа".**

**Аўтараў (узрост 10-14 гадоў) чакаюць цікавыя ўзнагароды. Конкурсныя матэрыялы дасылаць да 21 мая 2001 года на адрас: 230050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, ЗБС "Бацькаўшчына". Даведкі па тэлефоне (017) 289-31-94.**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22. Будзённага, 48-а.

Наклад 299 асобнікаў. Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук. Дызайн і вёрстка Адам Кірэяцкі.

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"